*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№13 (1826)**
Аўторак, 27 студзеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец УП «Народная воля».
Кошт свабодны.


# Народная Воля


E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -5...-3, снег, уначы — -9...-7, ападкаў; у Брэсце ўдзень — -8...-6, уначы — -9...-7, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — -7...-5, уначы — -9...-7, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — -4...-2, снег, уначы — -5...-3, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -2...0, снег, уначы — -5...-3, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -3...-1, снег, уначы — -6...-4, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Новы склад Савета бяспекі

Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў новы склад Савета бяспекі. Як паведамляе яго прэс-служба, зроблена гэта ў сувязі з прайшоўшымі кадравымі прызначэннямі шэрагу службовых асоб. У склад Савета бяспекі на чале з Аляксандрам Лукашэнкам увайшлі: прэм'ер-міністр **Сяргей Сідорскі**, старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу **Генадзь Навіцкі**, старшыня Палаты прадстаўнікоў **Вадзім Папоў**, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта **Урал Латыпаў**, дзяржаўны сакратар Савета бяспекі — памочнік прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы **Генадзь Нявыглас**, старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю **Анатоль Тозік**, генеральны пракурор **Віктар Шэйман**, старшыня праўлення Нацыянальнага банка **Пётр Пракаповіч**, міністр унутраных спраў **Уладзімір Навумаў**, міністр замежных спраў **Сяргей Мартынаў**, міністр абароны **Леанід Мальцаў**, міністр па надзвычайных сітуацыях **Валерый Астапаў**, міністр фінансаў **Мікалай Корбут**, старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі **Леанід Ерын**, старшыня Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў **Аляксандр Паўлоўскі**, начальнік Генеральнага штаба Узброеных сіл — першы намеснік міністра абароны **Сяргей Гурулёў**.

**Андрэй СЕРАДА.**

## З узнагародай!

Ордэнам Пашаны ўзнагароджаны дырэктар Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі **Мікалай Круцько**, загадчык лабараторыі Інстытута фізікі імя Б.І.Сцяпанава **Васіль Мастоўнікаў**. Ордэна Францыска Скарыны ўдастоены намеснік дырэктара па навуковай працы Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы **Сцяпан Лаўшук**, медалі "За працоўныя заслугі" — слесар механазборачных работ Навукова-вытворчага аб'яднання "Цэнтр" **Рыгор Філякін**.

Медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны загадчык лабараторыі Інстытута тэхналогіі металаў **Аляксандр Бадзяка**, загадчык лабараторыі Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі **Барыс Джагараў**, загадчык аддзела Інстытута аграрнай эканомікі **Зінаіда Ільіна**, загадчык лабараторыі Інстытута радыябіялогіі **Уладзімір Кудрашоў**, дырэктар Інстытута прыкладной фізікі **Пётр Прахарэнка**, намеснік дырэктара па навуковай працы Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў **Валерый Федасюк**.

Ганаровае званне "Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь" прысвоена віцэ-прэзідэнту НАН Беларусі **Уладзіміру Гусакову**, дырэктару Інстытута радыябіялогіі **Яўгену Канаплі**.

Ганаровага звання "Заслужаны вынаходнік Рэспублікі Беларусь" удастоены загадчык лабараторыі Інстытута цепла- і масаабмену імя А.В.Лыкава **Павел Куц** і загадчык аддзела Інстытута механікі металапалімерных сістэм імя В.А.Белага **Леанід Пінчук**.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Гандлёвы комплекс на мытні

Праект комплексу магазінаў кругласутачнага бяспошліннага гандлю, які арганічна павінен увайсці ў мытную інфраструктуру пагранічнага пераходу "Брузгі-2", прадставілі на суд грамадскасці архітэктары інстытута "Гроднаграмадзянпраект". Ён прыйдзе на змену не вельмі прывабным гандлёвым павільёнам, якія спецыялізуюцца ў асноўным на рэалізацыі гарэлкі, піва і імпартнага шырспажыву. Заказчыкамі комплексу выступілі замежныя фірмы — "Хелена Валеры", "Бела Трэйдынг Д'юты Фры" і "Новыя ўсходнія тэхналогіі", якія даўно і паспяхова працуюць на беларускім рынку.

Галоўны архітэктар праекта Аляксандр Тараненка адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН, што ён і яго калегі імкнуліся ў першую чаргу задаволіць індывідуальныя заяўкі кожнага з бакоў заказчыка. Чатыры магазіны — гэта вялікія гандлёвыя залы пад агульным дахам, прасторныя памяшканні для захоўвання тавараў, а таксама "бытоўкі" з выгодамі, чаго не маюць павільёны.

Запраектавана прасторная стаянка для легкавых аўтамабіляў, турыстычных аўтобусаў і грузавога транспарту.

**Віктар МАКАРЭВІЧ.**

## Інтэрнет-карткі «Белтэлекам»

У рознічны продаж на ўсёй тэрыторыі Беларусі паступаюць інтэрнет-карткі рэспубліканскага аб'яднання "Белтэлекам". Набыць іх можна ў пунктах калектыўнага карыстання РА "Белтэлекам", кіёсках і аддзяленнях РА "Белпошта", кіёсках і крамах "Белсаюздрук".

Адметным адрозненнем гэтай паслугі з'яўляецца тое, што карыстацца адной і той жа інтэрнет-карткай можна з любога тэлефоннага нумара з любога пункта краіны ў любы час па адзіным нумары дазвону — 8-60-61-00-11-11.

У продаж паступяць карткі наміналам 60, 120, 180, 300 і 600 тарыфных адзінак, г.зн. кошт інтэрнет-картак у залежнасці ад наміналу складзе ад 1910 да 15.740 рублёў (без уліку ПДК).

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Рэп заклікае

Беларускі прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) прапануе ўраду прывесці ў адпаведнасць сістэмы індэксацыі тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі і тэрмінаў іх плацяжоў з індэксацыяй і тэрмінамі выплаты зарплаты і іншых даходаў грамадзян.

Як зазначана ў звароце да ўрада, прынятым на IV пленуме Рэспубліканскага савета прафсаюза РЭП у Мінску, зараз у гэтых сістэмах існуе неадпаведнасць. "Тарыфы на паслугі індэксуюцца штомесяц паводле памеру інфляцыі, а заработная плата і іншыя даходы — толькі ў выпадку перавышэння 5-працэнтнага парога росту цэн з моманту апошняга павышэння тарыфаў і акладаў і толькі ў памеры 80 працэнтаў ад бюджэту пражытковага мінімуму. Такая неадпаведнасць прыводзіць да падзення ўзроўню жыцця многіх людзей, асабліва нізкааплачваемых работнікаў, пенсіянераў, студэнтаў", — гаворыцца ў звароце.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## «Спадчына» рупіцца аб нашчадках

Можна не сумнявацца ў тым, што нашчадкі падзякуюць вучням Руднянскай базавай школы Полацкага раёна за іх сённяшні клопат аб захаванні і адраджэнні мясцовай культурнай спадчыны. А пакуль той час прыйдзе, настаўнікі гэтай школы могуць ганарыцца сваімі выхаванцамі — удзельнікамі краязнаўчага гуртка "Спадчына", якія дружна прынялі рашэнне аднавіць гістарычна-культурны помнік — паркавы ансамбль XIX стагоддзя, што існаваў непадалёку ад школы, у наваколлі мястэчка Фарынава. У тым шляхецкім парку, разбураным і знішчаным за паслярэвалюцыйны час, расло больш за 50 відаў каштоўных дрэў, сярод якіх былі блакітныя елкі, бальзамічныя сібірскія піхты, амурскі аксаміт, сасна Веймутава ды іншыя рэдкія для Беларусі расліны, з якіх да нашых дзён дажыло толькі каля дваццаці. Была ў парку і штучная сажалка, але з цягам часу з-за адсутнасці руплівага догляду яна пераўтварылася ў непрывабнае балотца.

Гурткоўцы пачалі з таго, что пачысцілі, як змаглі, сажалку і прыбралі парк ад смецця. На штосьці большае ў дзяцей не хапіла сіл і сродкаў, бо, каб давесці сажалку да ладу, з яе неабходна спусціць ваду, а тут ужо без дапамогі дарослых не абыдзешся. Тым не менш выхаванцы "Спадчыны" мяркуюць, што летам да іх працы далучыцца Фарынаўскі сельсавет, і з яго ўдзелам школьнікам удасца пакрысе вярнуць сажалцы яе колішні выгляд і штучны вадаём зноў, як больш за стагоддзе таму, упрыгожыць тое, што засталося ад старажытнага кутка Полаччыны.

Сябры краязнаўчага гуртка заняліся рэстаўрацыяй Руднянскага парка, так бы мовіць, на тэарэтычным падмурку. Яны зазірнулі ў архівы, каб як мага больш даведацца аб гісторыі парка, яго былых гаспадарах і першапачатковай планіроўцы.

Школьнікам, да прыкладу, стала вядома, што калісьці ў парку быў нават фантан, а ўся тэрыторыя была разбіта на квадраты, у кожным з якіх раслі дрэвы адной пароды.

Выхаванцы "Спадчыны" такім чынам вырашылі правесці працу над памылкамі дарослых, якія не рупіліся аб спадчыне продкаў, а руйнавалі яе. Гурткоўцы вельмі спадзяюцца, што ў іх бескарыслівай працы па аднаўленні гісторыка-культурнага помніка ім дапамогуць раённыя ўлады і кіраўніцтва Полацкага лясгаса.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ**

# Тучи над Европейским гуманитарным университетом

*21 января ректор Европейского гуманитарного университета (ЕГУ) академик Анатолий Михайлов был приглашен к министру образования Александру Радькову, который предложил ему сложить с себя обязанности ректора, сообщают в администрации ЕГУ.*

Анатолий Михайлов отказался подписать заявление об отставке. Десять послов европейских государств нанесли визит министру Радькову, с тем чтобы высказать свою обеспокоенность планами министерства и судьбой ЕГУ. Пока дальнейшего продолжения инициатива министра образования не получила. Коллектив ЕГУ попросил академика Михайлова не покидать свой пост и готовит письмо в его поддержку.



Навязываемая Министерством образования инициатива может стать симптомом более принципиальных изменений, затрагивающих сложившуюся в университете систему образовательной подготовки, реализацию в ЕГУ международных образовательных и исследовательских программ, а в конечном итоге — исчезновение этого вуза в том виде, в котором он существует, и, как следствие, — изменение отношения к Беларуси в международной университетской среде, считают в ЕГУ.

Академик Анатолий Михайлов, основатель и ректор ЕГУ, доктор философских наук, профессор, член Европейской академии наук и искусств (Зальцбург), Академии гуманитарных исследований (Москва), Рыцарь Ордена "Академические Пальмы" (Франция), признанный исследователь в области немецкой философии и культуры, автор известных работ по истории герменевтики и философии Мартина Хайдеггера.

Европейский гуманитарный университет признается как одно из ведущих образовательных учреждений в Центральной и Восточной Европе и является полноправным участником ряда европейских образовательных программ (в частности, Campus Europae). ЕГУ — один из лидеров реформы образовательной системы РБ в плане ее адаптации к трансевропейскому образовательному процессу. Министерство образования Беларуси никогда не оспаривало эффективность и качество подготовки студентов в ЕГУ, являющемся единственным негосударственным вузом Беларуси, имеющим официально признанный государством статус университета.

**МОСКВА—МИНСК**

# Россия требует рыночных цен за газ

Стало известно, что Россия и Беларусь переходят на рыночные отношения в вопросе поставок газа. Это подтвердил Владимир Путин на совещании с членами Кабинета министров: "Я два раза разговаривал с Лукашенко по "газовому вопросу". Он подтвердил готовность перейти на рыночные отношения с российскими поставщиками газа".

Комментируя по просьбе Владимира Путина эту ситуацию, вице-премьер правительства РФ Виктор Христенко сказал: "У нас нет проблем с поставками в Беларусь. Мы готовы в полном объеме и договорных цифрах поставлять газ. У нас есть проблемы с белорусскими потребителями по вопросу сохранения внутрироссийских цен на поставляемый газ. Они уклоняются от договоренности президентов, не хотят переходить на рыночные цены, а сохранение внутрироссийских цен — прямой убыток для Газпрома". Об этом передает РИА "Новости".

Как ранее сообщало НТВ, Газпром не поставляет газ в Беларусь с 1 января 2004 года. Об этом сообщалось в пресс-релизе компании 22 января, когда независимые поставщики газа "Итера Холдинг" и "Транс Нафта" сообщили Газпрому о том, что оговоренные с белорусской стороной объемы газа ею полностью выбраны, а новые контракты не заключены.

В пресс-релизе Газпрома сообщалось, что в связи с этим транспортировка газа указанных поставщиков в Беларусь может быть полностью прекращена.

В субботу Белтрансгаз подписал контракт на дополнительные поставки газа от "Итера Холдинг" и "Транс Нафта" до конца января.

Вчера Владимир Путин поручил правительству РФ подумать о возможности выделения Беларуси государственного межправительственного кредита для обеспечения поставок газа: "Я разговаривал на эту тему с Михаилом Касьяновым. Он не возражает и обещал подумать, — сказал Путин, открывая совещание с членами Кабинета министров. — Но поскольку он в отпуске, я поручаю Христенко и Кудрину рассмотреть и решить этот вопрос в том объеме, чтобы в Беларуси у бытовых потребителей (газа) и предприятий не было никаких проблем", — указал президент РФ.

**Сергей ИВАНОВ.**

## Аршанскія таксісты — ветэранам вайны

Прыемны і каштоўны падарунак мясцовым удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны вырашылі зрабіць уладальнікі і вадзіцелі маршрутных таксі Оршы Тамара Буханава, Ігар Карась і Алег Балотнікаў. Яны абавязаліся самі і заклікалі сваіх калег па бізнесе бясплатна абслугоўваць былых франтавікоў. Дабрачынная акцыя аршанскіх таксістаў-прыватнікаў прысвечана сёлетняму юбілею вызвалення Віцебшчыны і Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Колькі часу будуць працягвацца бясплатныя перавозкі заслужаных пасажыраў, пакуль што невядома. Магчыма, толькі што аб'яўленая дабрачынная ініцыятыва завершыцца ў ліпені (у дні светкавання юбілею Вызвалення, але не менш верагодна, што акцыя працягнецца і да канца года, бо ў Оршы засталося зусім мала ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай — крыху больш за тысячу чалавек.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**АНОНС**

# «Круг»

**З сённяшняга нумара «Народная воля» пачынае знаёміць чытачоў з новым раманам Алеся ПАШКЕВІЧА «Круг»**



Гэта твор пра трагічны лёс знакамітага беларускага паэта і грамадзяніна Уладзімера Дубоўку, якога Янка Купала называў беларускім Пушкіным, які быў знаёмы з Сяргеем Ясеніным і Уладзімірам Маякоўскім, якога за патрыятычны верш бальшавіцка-сталінскія ўлады амаль трыццаць гадоў трымалі ў няволі.

Гэта твор пра беларускую нацыянальную ідэю, пра супрацьстаянне мастака і таталітарызму.

Гэта твор пра знішчэнне Беларушчыны і яе неўміручасць.


*(Старонкі 3 і 4.)*


**СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ**

# Под Логойском открыли горнолыжный курорт...

В минувшую субботу под Логойском был открыт горнолыжный курорт. Хотя его официальное открытие состоится только 7 февраля, работу горнолыжный комплекс начал уже сейчас...

...В этот день были и мороз, и солнце, и чудесного в этом дне при желании можно было найти много. Даже наши первые неудачные попытки найти комплекс не омрачили настроение — курорт, расположенный в 40 километрах от Минска по витебской трассе, и в самом деле был хорош.

Место живописное. В пяти километрах от Логойска. Стройка в самом разгаре. Рабочие доделывают домики, доводят до ума пункт проката. Одиннадцать часов утра, но горнолыжников еще не "запускают" на трассу — какие-то сбои компьютера. Желающих покататься не очень много — человек пятьдесят. Кстати, не испытываешь большой радости, посмотрев на цены, которые предлагаются любителям горнолыжного отдыха. Судите сами. В выходные дни за 3 часа катания с 11.00 до 17.00 нужно выложить 25 тысяч рублей взрослому и половину этой стоимости ребенку (с 17.30 до 21.30 — 30 и 15 тысяч), за целый день — 35 тысяч и 17.500. И это, если у вас есть свое горнолыжное обмундирование. Если же нет, то в пункте проката придется оставить за трехчасовую аренду комплекта (лыжи, ботинки, палки) еще 20 тысяч. А если вы никогда не катались с гор, то за часовой частный урок инструктора надо заплатить еще 25 тысяч, чтобы затем не платить 400 тысяч за поломку лыж, 30 тысяч — за палки и 500 тысяч за испорченные ботинки. Таким образом тысяч шестьдесят (надеюсь, за 3 часа вы пожелаете не один раз спуститься с трассы) "улетают" легко и непринужденно.

А плюс захочется что-то "укусить". Кстати, пункты общественного питания (филиал "Раковского бровара") уже работают вовсю. Возле нижней станции, откуда поднимаются на гору лыжники, жарятся шашлыки и колбаски, можно попить чайку, еще чего покрепче.

— Как идет торговля? — интересуюсь у продавцов.

— А никак не идет, — с грустью сообщают работники торговли. — А вы, собственно, из какой организации?

— Я из организации "Народная воля", — удовлетворяю любопытство продавцов и тут же получаю в свой адрес обвинения, что "ходят тут разные из оппозиционных газет, а у них потом колбаски не покупают". Все мои доводы, что негосударственная пресса имеет к их колбаскам равно такое же отношение, как и государственная, не возымели успеха — со мной перестали разговаривать.

Зато охранник Валерий Белановский рассказал, как попал сюда на работу.

— Все очень просто, здесь больше платят, — признается мой собеседник. — Сам я из Логойска, работал раньше на молокозаводе. Получал 130 тысяч, а затем увидел объявление, что на работу в охрану набирают рослых парней. Кстати, здесь, в комплексе, очень много логойских работает. Для молодежи строительство этого комплекса — золотое дно, потому что после армии деваться им практически некуда.



— И какая у тебя здесь зарплата, если не секрет?

— Тоже 130. Только долларов (понятно, в эквиваленте. — **Авт.**)

Из техперсонала уже трудятся около 50 человек. В планах — занять человек 100—150 постоянного техперсонала и 200—250 в сезон.

А вообще, сама стройка впечатляет. Еще в июне прошлого года здесь не было ничего, но уже сегодня ООО "Трайпл", которое является инвестором и заказчиком комплекса, буквально сотворило чудеса — открыта горнолыжная трасса, запущена первая в Беларуси 4-кресельная канатная дорога, уже построены три великолепных бревенчатых домика (всего будет три однокомнатных и шесть двухкомнатных домиков) для желающих провести здесь не один день (ориентировочная цена — 50 у.е. в сутки).

— Уже в ближайшее время будут сданы в эксплуатацию новые горнолыжные трассы, думаем, что уже в феврале заработает прекрасная русская парная с массажным кабинетом, вскоре будут сданы гостиница на 21 номер, пунт проката (сейчас работает временный), ресторан на 300—350 посадочных мест, — рассказывает мне заместитель генерального директора ООО "Трайпл" Владимир Карпук. — Мы закупили снежные пушки и снегоутрамбовочную машину, в пункте проката имеются 400 пар лыж. Предусмотрено создание сети искусственных озер. Кстати, грунт здесь такой, что не держит воду, а поэтому дно пришлось устилать специальной пленкой. На втором этапе, в следующем году, начнем строительство отеля мест на сто с мини-аквапарком и двух теннисных кортов. Будут специальная стенка альпиниста для любителей экстрима, аттракционы с летними и зимними санками, возможно, будет катание на снегоходах, построим хоккейную коробку, которая летом перепрофилируется в площадку для летнего роликового хоккея. Вокруг озер будут специальные дорожки для катания на роликовых коньках, площадка для керлинга, летом организуем катание на горных велосипедах (велосипедистов тоже будут поднимать в гору на подъемниках), картингах. Будут всевозможные батуты, карусели. Всего же мы хотим, чтобы комплекс мог безболезненно принимать 4,5—5 тысяч человек.

— Сколько денег уже вложено в строительство этого курорта?

— Около 7 миллионов долларов. Думаем, что будет освоена еще такая же (если не больше) сумма. Как говорят, аппетит приходит во время еды.

...Стройка действительно грандиозная. "Белорусская Швейцария", как нередко называют горнолыжный курорт "Логойск", рассчитывает принимать желающих отдохнуть не только из Беларуси, но и из зарубежья. В основном — ближнего. Поедут ли — отдельный вопрос. И по карману ли такой отдых белорусу среднего достатка — тоже.

Но это вопросы сегодняшнего дня. Кто из нас не мечтает о лучшей жизни? Ведь уже для тех же поляков 10—15 долларов — не деньги. А мы что, хуже?

**Алесь СИВЫЙ.**
**Фото Сергея ИВАНЕВСКОГО.**

*Логойский район.*

## Міхаіл Фінберг плануе арганізаваць новы фестываль

Заслужаны калектыў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга плануе арганізаваць новы фестываль. Паводле слоў прафесара, "гэты форум будзе прысвечаны той музыцы, якая не забываецца і любімая слухачамі".

Фестываль, правядзенне якога запланавана на восень, будзе складацца з сямі канцэртаў: на першы канцэрт запрошаны вядомы расійскі кінарэжысёр Эльдар Разанаў, на другі — латышскі кампазітар Раймонд Паўлс, трэці канцэрт будзе прысвечаны спявачцы Ганне Герман, чацвёрты — выканаўцу Валерыю Абадзінскаму. Таксама пройдуць мерапрыемствы, прымеркаваныя да 70-годдзя з дня нараджэння Віктара Вуячыча, 75-годдзю з дня нараджэння кампазітара Яўгена Глебава і памяці народнага артыста СССР, мастацкага кіраўніка ансамбля "Песняры" Уладзіміра Мулявіна.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## З кельмай у Маскву

Беларускія будаўнікі возьмуць удзел у рэалізацыі праграм жыллёвага будаўніцтва Масквы. Дамоўленасць была дасягнута падчас перамоў міністра будаўніцтва і архітэктуры Беларусі Генадзя Курачкіна з першым намеснікам мэра Масквы Уладзімірам Рэсіным, якія прайшлі ў расійскай сталіцы.

Таксама было вырашана павялічыць пастаўкі ў Маскву беларускіх будаўнічых матэрыялаў.

**Андрэй СЕРАДА.**

## Падпаліў вагон

Спрабуючы закурыць, п'яны пасажыр дызель-цягніка Брэст—Пінск падпаліў вагон. Агонь заўважыў супрацоўнік міліцыі. Ён ускочыў у вагон і ўбачыў, што на адным з тлеючых сядзенняў ляжыць мужчына. Пасажыра эвакуіравалі. Пажар быў ліквідаваны.

Вагон сур'ёзна пацярпеў: выгарэла 30 квадратных метраў абшыўкі, пашкоджаны сядзенні, 4 акны засталіся без шкла. Што да пасажыра, ён толькі спалохаўся. 53-гадовы жыхар Жабінкаўскага раёна прызнаўся, што курыў.

Вагон ужо адпраўлены ў Брэст, дзе яго будуць рамантаваць. Пасажыру давядзецца аплаціць нанесены ўрон.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

Народная Воля
27 СТУДЗЕНЯ 2004 г.

# Круг

(Працяг.
Пачатак на 3-й стар.)

...

Хоць і пачыналася вясна, але вясна чужая, далёкая — выказаная ім у вершы "Вясна на чужыне"; а да ўсяго трызнілася-летуценілася штосьці містычнае, акрытае павалокай злоснай казачнасці і ў змрочных подумках урэальненае — як у вершы "Здані" ("Вецер косы ночы расплёў..."), як у вершы "Ноч наплакалі бярозы...", як у "Імжы":

*Імжа, і склізота, і прыкрая золь*
*За скрогатам ветру — навалай.*
*Учмарнасць убралася светлая столь,*
*Блакіт ад зямлі адарвала...*

Радавалі толькі сустрэчы з сябрамі-землякамі. У Маскве склалася цэлае згуртаванне студэнтаў-беларусаў. Яны адкрылі свой "Беларускі Клуб", дзе чыталі лекцыі, ладзілі вечарыны.

...

## 5

Вясну змяніла восень. Прамежкавага — лета — здалося, і не было. На першай вераснёўскай лекцыі 1922 года ў Пятроўска-Разумоўскай акадэміі арыштавалі ягонага сябра Гаўрылу Гарэцкага. Па фальшывым даносе маскоўскае ГПУ абвінаваціла яго ў пяцігадовай контррэвалюцыйнай дзейнасці. Як толькі Дубоўка дачуўся пра гэта, паспрабаваў адведаць Гаўрылу, аднак начальства Бутыркі дазволу на тое не дало.

Прайшоў доўгі тыдзень. Думалася, што спакваля ва ўсім разбяруцца, вызваляць сябра. Ажно — новая жахлівая навіна: трагічна загінула родная сястра Гаўрылы Ганна, студэнтка Заатэхнічнага інстытута. 15 верасня, ужо каторы раз не дамогшыся сустрэчы з братам, расчуленая і зніякавелая, чакала трамвая — і патрапіла пад колы вагона. Ганна моцна паранілася і праз тры дні, не пражыўшы на свеце і дваццаці гадоў, памерла ў маскоўскім шпіталі.

Яе пахавалі ў Галавінскім манастыры пры царкве (вывезці цела на Радзіму бальшавіцкія ўлады не дазволілі). За трунoй ішлі дзесяткі землякоў-студэнтаў, таварышаў, а яму, наструнена-нацятаму, — памятаў — тады ўпершыню захацелася ўзарвацца страшнымі праклёнамі тым, хто звёў іх у гэтым чужым горадзе, хто зрабіў вязнем ягонага сябра і на кім крывавіла віна ў смерці гэтае беларускае дзяўчыны...

Калі напрыканцы верасня ў Беларускім прадстаўніцтве на Малой Мікіцкай ён сустрэў Гаўрылу, адразу здзівіўся, а ўжо толькі як выйшлі разам на вуліцу, засталіся адны — абрадаваўся напоўніцу: значыць, і насамрэч вызвалілі...

Ён запрасіў Гаўрылу да сябе, пазнаёміў з бацькамі, — думаў, скруха ў сябравых вачах растане. А той адмовіўся нават паабедаць, крыху пасядзеў і пачаў развітвацца.

— Хачу яшчэ на Ганульчыну магілку з'ездзіць, — патлумачыў.

— То і я з табой, — вызваўся Уладзімер. — Пачакай... — дастаў з шафы ўкладзеныя ў газету аркушы. — Пачытай вось дарогай...

За чырвонымі манастырскімі сценамі, пад голымі ліпамі яны доўга моўчкі ўзіраліся на жоўты грудок пад драўляным крыжам.

— Гэта я вінаваты ў яе смерці... — прашаптаў Гаўрыла. На яго было цяжка глядзець: увесь збялелы, вусны дрыжаць — як ад сполаху ці холаду, а ў дагэтуль светлых вачах заледзянела страшная таямніца. — Я з Бацькаўкі яе сюды звёз. І вось... У шпіталі яна плакала, боль страшэнны: адрэзала нагу, пашкоджаны таз, пазванкі, страўнік. Мяне тады сама выпусцілі. Доктар прасіў цукру знайсці, каб падтрымаць яе сілы. Я ўсюды абдегаў, а не здабыў... Мая віна. На мне яе смерць...

— Не кажы так, ты ж добра ведаеш, праз каго так сталася.

Зноў маўчалі, пакуль Гаўрыла не разгарнуў укладзеныя ў газету аркушы. *"СТРОМА. Светлае памяці Ганулі Гарэцкай, як вяночак на магілу ў чужыне, прысвячаю. Аўтар"*, — было надрукавана на першай старонцы.

— Гэта твой зборнік? — расчуліўся Гаўрыла, і на ягонай шчацэ бліснула слязіна.

— Так.

— Дзякуй. Дзякуй і за яе... — абняў Дубоўку, горычна прызнаўся: — Ведаеш, я ўжо і не спадзяваўся назад вярнуцца. Мяне да высылкі рыхтавалі. А затым на допыт да Мянжынскага павялі — і вызвалілі. Пэўна, прачулі пра няшчасце. Сваёй смерцю яна мяне выратавала...

Чакаючы рамізніка, Гаўрыла прачытаў увесь машынапіс Дубоўкавага зборніка — сямнаццаць вершаў, падзеленых на тры нізкі: "На чужыне", "Летуценні" і "Адраджэнцам" — і ўздыхнуў:

— Толькі ж як такое зараз выдаць?.. Бальшавікі ж гэтую для нас чужыну хочуць нам бацькаўшчынай зрабіць, а адраджэнцы нашы ім як костка ў горле...

— Выдадзім. Я ўжо ведаю, як, — запэўніў сябра Дубоўка.

...

## 6

1 снежня 1923 года ў Літінстытуце адзначалі пяцідзесяцігоддзе рэктара. Брусаў намагаўся выглядаць упэўненым, вясёлым. Імправізаваў, разглядаючы прысвечаны яму спецвыпуск студэнцкай насценгазеты, напрыканцы выступіў з адмысловай лекцыяй — і гаварыў узнёсла, натхнёна. Дубоўку нават падалося, што ў сваёй прамове Брусаў і спавядаўся:

— У паэзіі, мастацтве на першым месцы — асоба творцы! Яна сутнасць. Усё іншае — форма. І сюжэт, і ідэя — форма. Усялякае мастацтва ёсць лірыка, усялякая асалода мастацтвам — гутарка з душой мастака...

Да такога з цяжкасцю пасавалі казённыя выступы прадстаўнікоў наркамата прасветы і партыйцаў пра будучнасць новай пралетарскай літаратуры.

З інстытута з дзесятак гасцей — некалькі выкладчыкаў, хтосьці з маскоўскага камісарыята, дыпламат і гісторык Платон Кержанцаў, які здзівіў усіх сваёй шляхетнасцю, начытанасцю, і два студэнты Клім Старшнёў і сакратар брусаўскага кабінета паэтыкі Уладзімер Дубоўка — накіраваліся па вячаровай заснежанай вуліцы да кватэры Брусава, дзе ўжо чакаў накрыты юбілейны стол.

Кватэра — палова двухпавярховага дома з выхадам у ціхі дворык — уразіла Дубоўку. Вялікая гасцёўня, утульны, абстаўлены пад "стары" лад кабінет з кніжнымі стэлажамі на цэлую сцяну, старымі карцінамі, — акурат як у колішняга агародніцкага князя.

— Што, і самому захацелася такі штаб мець? — усміхнуўся, заўважыўшы Дубоўкаў сподзіў, гаспадар, — і ў адказ Дубоўка расказаў пра свае першыя "ўлазіны" ў падобны кабінет яшчэ босым хлапчуком — і вынік таго.

За сталом гасцей было не пазнаць: куды падзеліся напускная дзелавітасць, важнасць? Сыпаў досціпы Кержанцаў. Модна апрануты, ён быў падобны да іншаземца: кідка-малінавы касцюм, пад настаўленым снежным каўняром кашулі — замест гальштука — стыльны шалік у насычаную вохру, пазалочанае пенснэ, кароткія вусы, дарагая люлька ў сціснутых вуснах; трымаўся па-дзелавому і ўпэўнена, у жэстах — манерны і марудны.

Брусаў піў віно і больш слухаў. Да яды амаль не дакрануўся, і Дубоўка не мог не адзначыць здрадлівых ямінак на ягоных схуднелых шчоках — перад імі адступала нават далікатная бародка. Заўважна парадзелі колісь багатыя валасы, нібыта пабольшаў на ім ужо не новы — у шэрыя клеткі — пінжак, пад якім нязграбна абвастрыліся худыя плечы. Гаспадар неяк зніякавела выслухаў тост Кержанцава — за здароўе, пагладжваў бліштастыя вусы і — як не весяліўся — зноў хмурнеў.

І раптам — бесцырымонны стук у дзверы. Напачатку ўвайшлі двое мужчын у доўгіх саматужных кажухах — прывіталіся, унеслі драўляную бочку, дыхнулі марозам, стынню — і зніклі. Затым у дзверы вызірнула жоўта-кучаравая галава Ясеніна. Скінуўшы лёгкі палітончык і блытаючыся ў доўгім вязаным шаліку, ён з грукатам падкаціў бочку да Брусава:

— Гэта — падарунак. Роўна пяцьдзесят літраў разанскай вішнёўкі. Па літры за год. Настоеная выдатна — сам выбіраў. То будзь здароў, Яклевіч! — і ўжо нібыта апраўдваючыся: — Я заблытаўся ў стылях: першага ці трынаццатага думаў віншаваць ісці. Ажно не памыліўся...

Калі меркаваць па Ясеніну, вішнёўка і насамрэч абяцала быць выдатнай: чырванашчокі і ад марозу, і ад прадэгуставанага, ён сеў побач з Дубоўкам — дзе было вольнае месца, аднак ніхто, акром яго, не мог адкаркаваць бочку, і Ясенін мусіў зноў вяртацца да юбіляра.

Сустрэча-віншаванне расцягнулася да ночы. Кержанцаў, таварышы з камісарыята і Старшнёў з паўгадзіны таму разышліся. Дубоўку ж трэба было ісці пехам некалькі гадзін, і калі Брусаў прапанаваў застацца, ветліва пагадзіўся (бацькоў загадзя папярэдзіў, што затрымаецца).

Застаўся і Ясенін. Хоць і бачыў Дубоўку ўпяршыню, трымаўся як з даўнім знаёмцам. Падліваў у келіх, распытваў пра інстытут — а ўхмялеўшы мацней, загаварыў сам:

— Паважаю Яклевіча... Гэта ж нас яшчэ на свеце не было *, а ён такое пісаў! — І, бліскаючы блакітнымі зрэнкамі, неяк урачыста і па-дзіцячы ўсміхаючыся, расцяжна задэкламаваў:

*Она в густой траве*
*запряталась ничком,*
*Ещё полна любви,*
*уже полна стыдом...*

А затым перакінуўся на іншае:

— Калі я ўпершыню глядзеў на Блока, на першага паэта, якога сустрэў, з мяне капаў пот... — і, зноў выпіўшы, соладка прыцмокнуў, пстрыкнуў пальцамі і гарэзна падагульніў: — Эх, ты голь еси... Выпил — закуси!..

Яны паснулі на канапе ў кабінеце. Раніцай, папрасіўшы ў Іаанны Мацвееўны, гаспадыні кватэры, прабачэння за клопат, Ясенін выпіў малінавай гарбаты і, цесна абкруціўшыся паверх каўняра шалікам, знік. Следам за ім развітаўся і Дубоўка...

...

## 7

Цэлыя суткі вёз іх пыхлівы цягнік да Харкава, куды беларуская дэлегацыя (большасцю — "маладнякоўцы": Дубоўка, Александровіч, Ажгірэй — невысокага росту маладзён з пышнымі кучаравымі валасамі й рамантычным поглядам) была запрошана на Шаўчэнкаўскае свята паэзіі.

Украінскаму культурніцкаму размаху можна было адно пазайздросціць: мноства кніг, перыёдыка, народныя гурты, спевы, танцы, музеі, тэатральныя пастаноўкі. І паўсюль беларус — сябар, таварыш, паўсюдна — усмешкі, спагада.

Харкаў жа адкрыўся нібыта братам іхняга Менску: налечаны красавіцкім сонцам, горад нібыта высільваўся скалануцца, расправіць свае плечы-вуліцы, абуджаўся зяленівам лістоты і травы ў парках, а пад павышэлым блакітам вясновага неба — тая ж няўтульнасць, вузкія нязграбна забудаваныя вуліцы, дзе побач з высокімі мураванкамі ціснуцца драўляныя халупкі — і ці не такая ж, нібыта надарваная за доўгія стагоддзі рэчка — Данец.

Аднак напачатку была Паэзія, былі хмельныя сустрэчы і шчырыя споведзі. Ён пасябраваў са сваім цёзкам — украінскім паэтам Сасюрам (які адразу ж падкупіў сваёй адкрытасцю), і ў свабодны адвячорак яны ўдвох падаліся агледзець гмах-навабудоўлю — Дом прамысловасці. Трамвай доўга поўз да вакзала, а затым і зусім знядужаў: лезучы на ўзвышша, пачаў стомна — як стогнучы — пішчаць жалезнымі коламі. Навабуд Дубоўку ўразіў, і Сасюра загаварыў, нібыта апраўдваючыся:

— Тут, калі прыкласці да зямлі вуха, чуцён будзе стогн... Столькі паўсюд і крыві, і слёз зямля ўвабрала. А пачнеш гаварыць пра гэта — у вочы пальцамі торкаюць: новая ж, маўляў, эпоха, новы свет! І ў вас, пэўна, тое ж...

— Тое ж... — уздыхнуў Дубоўка. — Я наогул так думаю: украінец з беларусам стагоддзямі адну долю на двух дзялілі...

Сасюра завёў яго на сустрэчу са студэнтамі-філолагамі. На стале ў інтэрнацкім пакоі ў адну хвілю з'явілася абрыкосаўка, вясковыя прысмакі. Былі доўгія спевы — і ўкраінскія, і беларускія, былі і танцы пад гармонік.

...

Першы дуб — вялікая хваёвая лодка — ідзе на сярэдзіну Дняпра, паварочваецца і, падхопленыя плынню, выпрамляецца. Грабцы (ён, Сасюра і два суправаджатых) узнімаюць вёслы і напружваюцца, як перад бойкай. Наля, чарнавокая студэнтка з паляшуцкім узлётам броваў са сваёй сяброўкай сядзіць на карме і затоена ўзіраецца наперад, дзе яшчэ не было відаць, але ўжо можна чуць кодаўскі парог. Ён — як недалёкі вадаспад — шуміць і грукоча на ўсю ваколіцу.

Сыра, холадна зранку. Высокія гранітныя берагі саступаюцца бліжэй, плынь мацнее; збоку, пад пасмамі туману, мільгаюць руіны замка, адзінокія кіпарысы — і яму падаецца, што гэта яны (берагі, замак, дрэвы) адбягаюць ад страшнага ў сваім дзікім нораве парога, а лодка — зачапілася за штосьці і стаіць.

І раптам вада нібы ўзвірыла ўверх, закіпела. Дуб ускочыў у самую бушу, шмаргануў дном аб парогавую закіп, задрыжэў. Пырскі гохкаюць у барты і заліваюць ногі. Яшчэ хвіля — і ўсё знікае. Парог гудзе ўжо за спінай, а яны — на аціхлай мутна-зялёнай роўнядзі.

Другі парог злаваўся збоку: калі берагі пачалі зноў звужацца і плынь паскорылася, яны павярнулі да абкладзенай гранітнымі глыбамі адводнай канавы. Перад самым вялікім парогам — Ненасытцам — было дамоўлена зрабіць прыпынак.

Чакаючы астатнія дубы, яны расклалі агонь — і каб абсохнуць, і каб нагрэць вады.

— Хай тут дзяўчаты пагаспадараць, а мы давай разведку Ненасытца правядзём, — прапанаваў Сасюра. Яго і мокрыя валасы былі светлымі. Загарэлы абветраны твар, на плячах штосьці накшталт бушлату — цёртага і старога, гумовыя боты да каленяў, — усё выдавала ў ім бывалага рыбака.

Да парога яны ішлі хвілін з дзесяць. З узвышша адкрылася велічная і страшная панарама: на сярэдзіне Дняпра, як аграмадныя клыкі, высіліся дзве скалы. Вакол іх, набягаючы з ліхаманкавай хуткасцю, віравала вада, буршынілася на сонцы мільёнамі буйных пырскаў. Хвалі з загрыўкамі снежнай пены шалёна кідаліся ўніз, стагналі і біліся ў вясёлкава-туманную пыльцу.

— Пра гэтыя дзве скалы ходзіць паданне, — грукат вады быў настолькі моцным, што Сасюру даводзілася крычаць. — Сышліся на гэтым месцы на бойку два асілкі, казак і татарын. І кінулі адзін у аднаго гэтыя каменныя аграмадзіны. Казак быў дужэйшым — яго аскабалак даляцеў амаль да самага берага...

Яны спусціліся з узвышку да каменнай грэблі і назбіралі на беразе, пад пашчаманымі бярвёнамі, вядро аглушанай рыбы. Нізка над галовамі кружлялі злосныя чайкі.

— А адкуль тут столькі лесу? — Дубоўка паказаў на бярвёны.

— З вашых краёў. На гэтым парозе разбіваецца шмат плытоў, не толькі рыба...

Калі дзяўчаты чысцілі рыбу, Наля парэзала руку. Знайшлі бінт, туга абвязалі рану — і ўпраўляцца з рыбай пачалі хлопцы. Калі з берага заўважылі другі дуб, акурат зварылася юшка.

...Ноччу, напрасіўшыся на начлег у ціхую прыдняпроўскую вёску, ён, успамінаючы мінулы дзень, і сам не заўважыць, як тыя згадкі пачнуць складацца ў верш — спавядальны, адкрыты:

*Ты руку сваю забінтавала,*
*маладая... як цябе і клікаць?*
*Маё сэрца рвецца на кавалкі*
*і сціскаецца тугой вялікай.*

*Вусны пацалую шчыра, моцна,*
*прытуліся... Хай гавораць людзі:*
*словы іх, як палыновы воцат,*
*звінавацяць і мяне у блудзе...*

Ён выйдзе да Дняпра — і зусім нечакана сустрэнецца з Наляй! Яна, як чароўная здань, будзе ў доўгай шырокай сукенцы, сабранай на таліі паяском.

Разам прагуляюцца неспакойным берагам, звернуць у нізіну, дзе толькі-толькі паспела адшаргацець касавіца, сцішацца на мяккім стажку, які — як тынам — абгароджвала шэрая пад поўняй сцяна вясковага саду.

Ён абніме яе за плечыкі і павольна прытуліць да сябе. Наля памкнецца прыўзняцца, але ён схіліць яе голаў і прыпадзе да кунежных вуснаў. І адчуе, як злёгку ўздрыгне ейны станік, адчуе бурлівую віхуру ў сваіх скронях. І ўбачыць, як вышэй і вышэй узнімацьмуцца з Наліных зрэнак нясмелыя жаданні.

І загойдаецца ўсё навокал, замітусяцца іскрынкі зорак над імі. І абваліцца тын саду, і ўсё нябеснае мора хлыне на іх. Усё бязмежжа — на іх! А затым цёплыя сузор'і — як зіхоткія касякі рыб — выплывуць з-пад стога і памкнуцца ўдалеч, да зманлівых бясскрайяў — на волю...

Калі ж раніца абмые нябеснае зрэб'е і на Уладзімеравым пераноссі стануць бачны рассыпаныя — як на цецеруковым яйку — кропелькі рабаціння, яна пацалуе яго ў лоб і ўпэўнена скажа:

— Пайду будзіць нашых. Дняпро не любіць соняў.

*(Працяг будзе.)*

* *Сяргей Ясенін быў старэйшым за Уладзімера Дубоўку на пяць гадоў.*

ВЫБИРАЙ!

## Кто поедет на «Евровидение»

*В минувшую пятницу во Дворце Республики 15 артистов сражались за право представлять Беларусь на конкурсе "Евровидение-2004".*

*Выбирать лучшего исполнителя будут сами зрители 31 января во время трансляции концерта путем интерактивного голосования.*

По словам генерального продюсера Первого национального канала **Владимира Максимкова**, *"репетиция концерта длилась целыми днями, каждому исполнителю звукорежиссеры подобрали свою программу, которую впоследствии тщательно отрабатывали. За последнее время это был наш самый большой и серьезный бизнес-проект. Мы приложили максимум усилий для того, чтобы представить зрителю программу европейского уровня"*.

Атмосфера за кулисами была довольна напряженной. Артисты волновались.

Обязательным условием было исполнение хотя бы одного куплета песни на английском языке, поэтому особое внимание уделялось произношению исполнителей. Нужно сказать, что большинство из них справились с этой задачей: их песни одинаково хорошо звучали и на русском, и на английском.

Все песни исполнялись вживую. Паузы между композициями своими шутками заполняли обаятельные ведущие **Алесь Кругляков** и **Лариса Грибалева.**

Согласно зрительскому опросу, который мы позволили себе провести в кулуарах, больше всего зрителям приглянулись выступления **Максима Сапатькова, Натальи Подольской, Полины Сароко, Ольги Молчановой** и **Ирины Дорофеевой**.

Есть ли шансы у белорусов одержать победу на "Евровидении", сегодня затрудняются ответить даже сами артисты. Так, солист дуэта ***"Александра и Константин"*** **Константин Драпезо** говорит, что о реальных шансах на победу можно будет говорить лишь тогда, когда будет точно известно имя победителя отборочного конкурса.

*"Например, у нас с Александрой есть видеокассеты с записью конкурса "Евровидение" начиная с 1997 года,* — говорит Константин. — *Мы изучали тенденции, выводили какие-то закономерности побед. Как правило, у всех победителей были номера эффектные, легко запоминающиеся, обязательно с национальным колоритом. Сработает ли это у наших артистов, прогнозировать сложно..."*

**Ольга БЕЛАЯ, Даша ПАВЛОВСКАЯ.**
**Фото ByMedia.net**

СПОРТ

## Надежда таяла как дым...

*Мужская сборная Беларуси по гандболу распрощалась с надеждой попасть в плей-офф чемпионата мира 2005 года после того, как проиграла в минувшую субботу в гостях австрийцам — 19:24.*

Напомним, что белорусскую команду для выхода в плей-офф устраивало даже поражение с разницей в один мяч, но... После первого тайма наши проигрывали уже три мяча — 9:12, а во втором и вовсе "поплыли". Даже наставник белорусской сборной Спартак Миронович получил желтую карточку. Последние 10 минут игры белорусы окончательно провалили и за несколько минут до окончания матча проигрывали 16:24. Правда, в концовке игры наши спохватились, но было уже поздно. 19:24 — не в наш актив.

## «Бронза» — тоже металл

*В Москве завершился Международный юношеский турнир по футболу памяти Валентина Гранаткина.*

В матче за 3-е место сборная Беларуси победила сверстников из Украины.

Основное время закончилось вничью — 1:1, и сравняли счет наши футболисты только за 3 минуты до конца игры (гол забил Леонид Ковель). В серии одиннадцатиметровых ударов наши оказались точнее — 5:3.

А победителем турнира стала сборная России, которая в финале переиграла команду Польши — 1:0.

## «Утки» съели «дикарей»

*Клуб, в котором играет белорусский хоккеист Руслан Салей, "Анахайм" просто блестяще сыграл в своем последнем матче с "дикарями" из "Миннесоты".*

После двух периодов "могучие утки" проигрывали одну шайбу, но в третьем забросили пять безответных шайб и победили — 6:2.

Руслан в этой игре заработал один ассистентский балл.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

БЫВАЕТ И ТАКОЕ

## Трагическая гибель пьяных слонов

Четыре диких слона, напившихся рисового пива, погибли от удара током в штате Мегалайя на северо-востоке Индии.

Слоны известны своим пристрастием к рисовому пиву, которое варят жители деревень по всему этому району, однако это первый случай гибели пьяных животных. В начале этой недели стадо из 20—25 слонов устроило в удаленном районе Уэст-гарохилл настоящее буйство. Жители деревни в панике бросились бежать, побросав только что сваренное пиво, и слоны напились до полного опьянения.

Во время беготни несколько животных врезались в опору линии электропередач и повалили ее. Главный удар высоковольтного провода пришелся по их хоботам. Четыре слона погибли моментально.

Как говорит эксперт по поведению слонов Кушал Конвар Шарма из индийского штата Ассам, слоны нередко пьют рисовое пиво и совершают пьяные набеги на деревни. Только за три года, по данным экологов, в штатах Ассам и Мегалайя они стали причиной гибели по меньшей мере 180 человек. Впрочем, люди тоже в долгу не остаются: за последние шесть лет разъяренные жители деревень этих районов застрелили более 200 животных.

## Хирурги удалили опухоль весом в 80 кг

80-килограммовую опухоль удалили американские хирурги у страдающей редким генетическим заболеванием 47-летней румынки Лючицы Бунгез. Теперь женщина весит около 40 килограммов.

Операцию, затянувшуюся на 10 часов, провели в бухарестской больнице врачи, медсестры и анестезиологи, специально приехавшие в Румынию из Соединенных Штатов.

Руководитель группы доктор Маккей Маккинон, хирург Чикагского университета, предложил свои услуги бесплатно, поскольку правительство Румынии оказалось не в состоянии найти 300 тысяч долларов, необходимых на отправку Бунгез в Америку.

Приехав в Бухарест, врач обнаружил, что опухоль почти полностью покрыла спину пациентки и протянулась вниз до середины ее бедер. Уже после операции румынский хирург Ион Ласкар, участвовавший в работе медицинской команды, пошутил, что без опухоли женщина "выглядит гораздо лучше".

Родом Лючица из трансильванского города Брасов. Раньше она работала продавщицей пирожных, а в 22-летнем возрасте впервые обнаружила небольшую шишку. Выяснилось, что у нее редкий генетический недуг — болезнь фон Реклингхаузена. Когда опухоль выросла и стала весить 15 килограммов, ее удалили.

Вскоре, однако, она появилась снова и стала впитывать кровь Лючицы, подобно гигантскому паразиту. В результате женщина оказалась прикованной к постели на три года, не будучи в состоянии ухаживать за собой.

**27**
**студзеня**

**АЎТОРАК**
Усх. 8.07 Зах. 16.39
Даўж. дня 8.32
Першая квадра
29 студзеня

**90 гадоў** з дня нараджэння Р.А. Анчыкава, беларускага кампазітара

КРИМИНАЛ

## Бывшему ветврачу шьют очередное дело...

Очередное уголовное дело возбудила республиканская прокуратура в отношении бывшего ветеринарного врача Минского пограничного контрольного ветеринарного пункта Н. Соловья. Всего их собралось более десятка.

45-летний минчанин обвиняется в многократном получении взяток во время работы ветврачом. По данным следствия, он оформлял и продавал индивидуальным предпринимателям фиктивные ветеринарные свидетельства. За каждую справку ветеринар получал 40 долларов.

Под стражей Соловей находится с 7 февраля 2003 года. По окончании следствия все уголовные дела будут объединены в одно и направлены в суд.

## Докопался

Минские борцы с организованной преступностью задержали так называемого "черного копателя". 34-летний Канцов подозревается в том, что занимался раскопками в местах боевых действий минувшей войны в поисках оружия и боеприпасов.

Во время обыска квартиры минчанина оперативники нашли выстрел к немецкому гранатомету. Ранее мужчина привлекался к уголовной ответственности за приобретение и хранение оружия.

## Как один инвалид двух громил одолел

В неравной схватке с двумя разбойниками победил 27-летний инвалид III группы Дмитрий.

Минчанин опрометчиво открыл дверь двоим громилам в масках, которые, размахивая ножом, потребовали денег. К их удивлению, жертва повела себя "неправильно". Дмитрий стал бросать в налетчиков все, что под руку попалось, и те, забыв про свои намерения, ретировались.

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

## Деревенские «наркобароны»

Собравшего дикорастущий мак на огородах пригородной деревни Красное дважды судимого грузчика ГКОРУП "Облторгсоюз", 20-летнего Павла Чугунова сотрудники милиции задержали с добычей в Сельмашевском микрорайоне областного центра.

Как выяснилось в ходе предварительного следствия, маковая соломка предназначалась не для продажи — сидевший на игле наркоман ежедневно нуждался в допинге и собственноручно изготавливал зелье в домашних условиях на кухне.

Суд Железнодорожного района г.Гомеля приговорил его к пяти годам лишения свободы. В исправительной колонии строгого режима Павел пройдет курс принудительного лечения от опийной наркомании.

Его одногодок, освободившийся условно-досрочно в августе прошлого года после четвертой (!) судимости Валерий Собасенко в родной деревне Лопатино долго не задержался. Сбыв городским наркоманам шесть пакетов с маковой соломкой, полученную сумму потратил на местный самогон. Задержанные сотрудниками милиции с дурманом покупатели "сдали" продавца, как говорится, с потрохами. Пришлось суду Гомельского района записать на счет деревенского "наркобарона" пятую судимость и восемь с половиной лет строгой изоляции от общества. В исправительной колонии осужденный пройдет принудительное лечение от хронического алкоголизма.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

## Вторник, 27 января

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 08.10** "Доброе утро, Беларусь!".
**08.45, 14.45, 16.45, 23.25** "Моя страна".
**09.10 "Русские амазонки".** Сериал.
**10.05** Сериал **"Мисс Марпл".**
**11.05, 18.05 "Самозванцы-2".** Сериал.
**12.10** "Зона Икс".
**12.25** Комедия **"Мировой рекорд".**
**14.05** "Все нормально, мама!".
**15.10** "Время спорта".
**15.35** "Маски-шоу".
**16.05** "5х5".
**17.05** Сериал **"Мисс Марпл".**
**19.10** Комедия **"Лучший друг".**
**21.00** Панорама.
**21.50** Мелодрама **"Странное время".**
**23.40** "Любой каприз".

### ОНТ

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.30** Наши новости.
**08.05** "Доброе утро".
**09.05, 19.10 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**09.50** Сериал "Следующий".
**10.45** Дисней-клуб.
**14.25** Детектив **"Двойной удар".**
**15.40** Сериал **"Берег мечты".**
**16.30** "Угадай мелодию".
**16.55** "Большая стирка".
**18.10** Теория невероятности.
**18.40** "Осталась одна Таня". Док.фильм.
**20.00** Время.
**21.00 "Порох".** Худ.фильм.
**22.30** Сериал **"Следующий". ("NEXT-3).**
**23.40** "Не только о футболе".
**00.00** "На футболе".



### РОССИЯ

**07.45, 19.55** Сериал **"Русские амазонки-2".**
**08.50** "Короткое замыкание".
**09.45, 23.15** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**10.30, 15.40, 19.30** Местное время. Вести—Москва.
**10.50** "Что хочет женщина".
**11.50, 21.00** Сериал **"Неотложка".**
**16.10** Сериал **"Кобра".**
**17.00** Сериал **"Спас под березами".**
**17.55** Сериал **"Тайны следствия".**
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**22.00** Вести+.
**22.20** "Тайны блокадного города".
**23.30** Боевик **"Постовые".**

### ЛАД

**06.30** Euronews.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Есть только миг...".
**08.35** Футбол. Чемпионат Италии.
**09.40** "Пой, душа!".
**10.10** "Между нами, женщинами".
**10.25, 21.15** Сериал **"Грешная Анхелика".**
**11.15** "Обычный необычный день".
**11.45** Комедия **"Ясь и Янина".**
**12.50** "Обычный необычный день".
**13.15** Док.фильм "Догорающий вечер человеческой жизни".
**13.45** Мультфильмы.
**14.10, 15.30** "Не зевай!".
**14.50** "Шесть Иванов — шесть капитанов". Мультфильм.
**15.05** Сериал **"Зеркало, зеркала".**
**15.40** Тележурнал "Бум".
**16.05 "Неизвестный Наполеон".** Сериал.
**16.30** "В потоке жизни".
**17.10** "Ностальжи".
**17.40** Сериал **"Возвращение Шерлока Холмса".**
**18.30** "Между нами, женщинами".
**18.50** Сериал **"Крах инженера Гарина".**
**20.15** Колыбельная.
**20.30** "Дела семейные".
**22.05** Сериал **"Проклятый уютный дом".**

### НТВ

**05.00** Утро на НТВ.
**07.55, 19.50** Сериал **"Таксистка".**
**09.00, 11.00, 14.00, 16.00, 18.00, 00.00** Сегодня.
**09.25** Неизвестная война.
**10.15** "Страна советов".
**13.35** Протокол.
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Она написала убийство".**
**17.35** Протокол.
**18.35** Сериал **"Мангуст".**
**21.00** "Страна и мир".
**21.35** Красная стрела.
**21.45** Сериал **"Без следа".**
**22.45** Сериал **"Мангуст".**
**00.25** Кома: это правда.

### СТВ+RenTV

**07.00** Мультфильмы.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт".
**08.15, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**08.30, 23.35** "Технология".
**08.40** Триллер **"Кидалы и гангстеры".**
**10.10** Столичный футбол.
**10.35** "Добро пожаловаться...".
**10.50** "Пока горит свеча".
**11.20** Триллер **"Змеелов".**
**13.00** "Диалог со всем миром".
**13.50, 18.30 "Желанная".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или Очарованные Балетной Жизнью".** Сериал.
**15.15** "Рыцари света". Мультсериал.
**15.40 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры в космосе".** Сериал.
**16.00** "Как кот с мышами воевал". Мультфильм.
**16.15** "Кадровый вопрос".
**17.00 "Агентство".** Сериал.
**17.30 "Вовочка".** Сериал.
**18.15** "Здравствуйте, доктор!".
**20.00** "СТВ-спорт".
**20.15** "Тема дня".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Закон и криминал".
**20.55** Боевик **"Затяжной прыжок".** США. 2000.
**23.05** "Горячий лед".
**23.45** "Новости СНГ".
**00.00** Комедия **"Эльвира, повелительница тьмы-2".**

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45** Худ.фильм "Бей в кость".
**19.15** Док.сериал "Причуды природы".
**19.25** "Атомик Фильмз" и "К-видео" представляют...
**19.30** Сериал **"Богач, бедняк".**
**20.40** Телемагазин.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "ЦАУК" приглашает...
**21.10** Худ.фильм **"Близнецы".**

### ТВ ЦЕНТР

**05.00** "Настроение".
**07.45** Газетный дождь.
**07.55 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**08.45, 20.00 "Конференция маньяков".** Сериал.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00, 23.15** События.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.05** "Момент истины".
**12.05** Доходное место.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кестер".** Сериал.
**14.20** Как добиться успеха.
**14.30** Я — мама.
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** Идущие вперед.
**16.00 "Комиссар Мулен".** Сериал.
**17.15** Очевидное — невероятное.
**18.00 "Разлученные".** Сериал.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Лицом к городу.
**21.40** Тюрьма и воля.
**22.25** Времечко.
**22.55** Петровка, 38.
**23.35** Серебряный диск.
**23.55 "Улицы Ларедо".** Сериал.
**00.40** "Синий троллейбус".

### EUROSPORT

**04.00** Теннис.
**15.00** Футбол.
**17.00** Теннис.
**20.00** Футбол.
**22.00** Бокс.
**00.00** Журнал.
**01.00** Теннис.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны ААТ «Красная звезда» з дыяпазітываў заказчыка. 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 28 490 экз. Заказ № 574.